


# ТУТЭЙШЫЯ

НЕЗАЛЕЖНАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ

№3 (19), сакавік 2012


## КУЛЬТУРА



**Гуканьне вясны пачыналася 14-га сакавіка (1-га па старому стылю). У поўдзень моладзь зьбіралася гуртам і йшла за ваколіцу, на ўзвышша, сьпяваць. Высокае месца выбіралі таму, што яно першае вызвалялася з-пад сьнегу. Хлопцы зьбіралі з усяе вёскі розную старызну, зносілі яе і распальвалі вогнішча. Вясна бачылася нашым продкам часам новага ўваскрашэньня, сьвятам пачатку новага году, лета. Нараджэньне новага магчыма толькі праз адмірањне старога. Таму і ачышчалі хлопцы зямлю, а дзяўчаты поўнілі яе песьнямі-гаканьнямі.**

### «Агу, Вясна! Што ты нам прынесла?»

24-га сакавіка ў фальварку Вязынка адбылося традыцыйнае народнае сьвяткаваньне - Гуканьне Вясны, арганізаванае Студэнцкім этнаграфічным таварыствам.

Надвор'е спрыяла сьвяточнаму настрою і некалькі соцен людзей розных узростаў, субкультураў прыехалі сюды, каб патанчыць, пачаставацца беларускай кухняй, набыць які сувэнір на кірмашыку ці проста адпачыць на прыродзе.

Наглядчыцы музэю Янкі Купалы (вядома, менавіта ў Вязынцы нарадзіўся славуты паэт) раздавалі на ўваходзе зялёныя і чырвоныя стужкі замест квіткоў. "Зялёны - колер вясны" - казалі яны. Мы зь сябрам дамовіліся ўзяць толькі чырвоныя, каб не выглядаць разам як актывісты БРСМу, але ўсё адно нагадвалі нейкіх камунараў з чырвонымі банцікамі на грудзёх:-)

На ўзгорку, залітым сонечным сьвятлом, дзяўчыны з розных фальклёрных гуртоў сьпявалі аўтэнтычныя народныя песьні. Тое насамрэч было захапляльна, гіпнатычна і неяк нават суцяшальна. Потым павялі даўжэзны карагод ледзь не на ўсю тэрыторыю парку, захопліваючы пад час руху ўсё больш людзей. Прыйшлі сюды й дудары, музыкі зайгралі полькі ды кракавякі, у розных месцах зьвіняліся гурткі танцуючых і сьпяваючых.

Кірмашык прапаноўваў наведнікам зробленыя майстрамі сувэніры: тканыя паяскі, упрыгожаньні, музычныя дыскі, кніжкі і шмат іншых цікавых рэчаў. На кастры гатавалі смачныя стравы. Былі блінцы са сьмятанаю, ячная каша з верашчакаю (мачанкаю), лазанкі (запяканкі), гарбата.

Месца правядзеньня самохаць прыгожае. Так цудоўна было прайсьціся па сьцежках, уздоўж берагу рэчкі, дзе дзяўчаты сядзелі ля нахіляных да вады дрэвах і ўсё сьпявалі, забытыя ў сучасным сьвеце песьні. Спадабалася тое, што сьвята арганізавана энтузыястамі, людзьмі захопленымі традыцыйнай культурай, менавіта таму яно атрымалася такім шчырым, пазбаўленым межамі сцэнару ці паказальнай урачыстасьці. Абавязкова будзем сачыць за дзейнасьцю гэтай студэнцкай суполкі і наведаем іншыя фэсты такога кшталту.

***Джафар Сідх***

**Студэнцкае этнаграфічнае таварыства ў інтэрнэце:**
**vk.com/ethno_by, set.ethno.by, by-ethno.livejournal.com**



## ГРАМАДЗТВА



**Што такое Дзень Волі?**

**Незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі была абʼяўлена ў ноч з 24-га на 25-га сакавіка 1918 г. у Мінску. Гэты дзень з часам атрымаў назву Дзень Волі. Пачынаючы з канца 1980-х, у Мінску яго адзначаюць масавымі вулічнымі маніфестацыямі. Яны яднаюць розныя палітычныя сілы, што выступаюць за незалежнасьць, дэмакратыю і еўрапейскі выбар.**

### Дзень Волі 2012.

У гэтым годзе Мінгарвыканкам дазволіў шэсце на Дзень Волі ад Акадэміі навук. Заяўка арганізатараў святкавання была задаволеная па ўсіх пунктах. Паводле ацэнак журналістаў на мітынг сабралося да 5000 чалавек. Афіцыйная лічба на сайце МУС была пададзеная як 200 чалавек, стольки ж "налічыла" агенцтва БелТА.

Пад даждом і ветрам людзі прайшлі ад Акадэміі навук да парку Дружбы народаў. Цягнікі не спыняліся на Акадэміі навук, сек вецер і дождж. Нягледзячы на застрашванне, людзі розных пакаленняў у роўнай колькасці: маладыя, сярэдняга пакалення, сталага веку — выйшлі на шэсце ў гонар Дня Волі. Была народная творчасць: людзі прыйшлі з дзясяткамі саматробных плакатаў. Акцыя была самай масавай ад часоў Плошчы 2010-га года. Такога шматлікага Дня Волі не было ад 2007 года. Лукашэнкаўцы рабілі дробныя паскудствы: не прапусцілі на мітынг машыну з гукаўзмацненнем, якую раней гарвыканкам узгадніў, дэманстратыўна фільмавалі сабраных на відэа. Людзі скандавалі: «Не быць скотам!»

***Паводле www.nn.by***

***

Самаробныя бел-чырвона-белыя сцяжкі з паперы і шаўковыя стужкі былі заўважаны ў Слуцку ўжо вечарам напярэдадні Дня Волі, які частка грамадскасці Беларусі і краін замежжа адзначае 25-га сакавіка.

Гараджане мелі магчымасць бачыць маленькія сцяжкі на клумбах, на галінах дрэў уздоўж праезжай часткі вуліц Віленскай, Старадарожскай, Мельнічнай, Ленінскай.На іншых вуліцах падобная атрыбутыка з'явілася і на тумбах, дзе расклейваюць аб'явы.

Каля помніка Сафіі Слуцкай, каля будынка краязнаўчага музея з'явіліся невялікія букеты кветак, абгорнутыя бел-чырвона-белымі стужкамі.

"Добра, што знаходзяцца людзі, якія напамінаюць пра змаганне продкаў за Волю — гэта наша гісторыя, — падзялілася Галіна, у мінулым настаўніца. – Шкада, што толькі дата гэта адзначаецца ў адрозненні, напрыклад, ад сталіцы як бы ў нейкім "глыбокім падполлі".

Аляксандра В. (прозвішча па яе просьбе зменена) лічыць, што зараз у такіх гарадах, як Слуцк, немагчыма праводзіць урачыстасці, звязаныя з святкаваннем Дня Волі:

- Мітынг улады не дадуць правесці. А калі б нават і дазволілі, то людзі б пабаяліся прыйсці на мерапрыемства. Зразумела, што на такія мітынгі ў невялікіх гарадах прыходзяць грамадзяне, якія здольны на выклік існуючым парадкам. Прыходзячы на мітынг і пікеты, яны "спальваюць" саміх сябе, бо іх нямнога. Нават падчас правядзення дазволенага мітынгу, прысвечанага Слуцкаму Збройнаму Чыну, вяліся здымкі людзей невядомымі асобамі.

***Марына Верас, http://regionby.org***




## ГОРАД

**Жыхары якога гораду ня любяць хваліцца славутасьцямі сваёй мясьціны, з гонарам і захапленьнем распавядаючы аб гістарычных падзеях, вядомых суайчыньніках, самых смачных прадуктах, якія ў іх вырабляюць ці то проста пра асаблівасьці мясцовага характару тутэйшых. Случчане ў гэтым не выключэньне і заўжды знойдуць, што адказаць цікаўным іншагародмім гасьцям, бо на легенды наш горад багаты. Вось і ў інтэрнэце (у прыватнасьці на сайце газэты «Інфа-Кур'ер») пачалі зьяўляцца разважаньні на-конт слуцкіх брэндаў (пазнавальных тавар-ных знакаў) . Сапраўды, спадарства, чым мы горшыя? Хіба на Беларусі толькі Менск ды буйныя гарады маюць манаполію на званьне культурных цэнтраў? Даставайма з куфараў нашыя скарбы, частуйма добрых людцаў нашымі прысмакамі, распавядайма казкі нашых слаўных даўніх часоў, зьдзіўляйма ўсіх байкамі ды анэкдотамі з жыцьця штод-зённага!**

# Слуцкія брэнды? Папрашу не выражацца!

Госьці прыехалі! На пачатку абавязкова ўрачыстыя мерапрыемствы: песьні пад гармонік вясковых калектываў самадзейнасьці, вершыкі ад піянэраў і, канечне, прамова старшыні якога-небудзь камітэту. Нарэшце надыйшоў час запрасіць усіх да сталу. А ў нас тут і сыры, і сьмятана (лыжка стаіць!), і малачко. Цукрам пасыпайце каравai, каўбасамі напаўняйце талеркі, не саромейцеся. Было яшчэ слуцкае піва, але зараз, на жаль, толькі прывезенае. Смачна есьці!

- У вас замечательная продукция, - кры-чаць у захапленьні расейцы - даже мясо в кол-басе!

- І сало! - адгукваецца ўкраінскі госьць. Амэрыканец з японцам маўчаць - ядуць, ажно за вушамі трашчыць.

Бач, госьцейкі павесялелі, пачалі пытаньні розныя задаваць. Дзе, кажуць, вашыя славутыя на ўвесь сьвет паясы? Прывялі ў музэй - вось захаваўся адзін арыгінальны, за шклом, сыгналізацыя ўключаная, меры бясьпекі, усё пад кантролем. Тут расейцы пачалі енчыць, маўляў, яны такі ўжо на нейкай выставе ў сябе ў Пецярбурзе бачылі, каб вось набыць сабе, дык іншая справа. А тут мы, ня будзь дурнямі, уключылі "Купалінку" і ўрачыста ўнесьлі ў фірмовых пакецiках "Унівэрмаг Слуцк" такія ж самыя, залаценькія, каляровыя, шыкоўныя пая-сы. Расейцы абамлелі:

- Как красиво, дайте два!

- What the f#ck?! - выдаў амэрыканец, што азначае, здаецца, "адкуль такая прыгажосьць?!".

А мы, ганарліва задраўшы нос, - адрадзілі вытворчасьць, сам прэзыдэнт загадаў "пашыць красіва". Тут японец пачаў прыдзірацца - гэтая тэхналёгія, кажа, была страчаная стагодзьдзі таму. Нашая кіраўніца ідэалягічнага аддзелу не вытрымала: "Вы, мужчына, навернае нас за дурных дзержыця? Гаварат вам, у аднаўленні технологіі задзейстравана праца історыкаў, мастацтвазнавцев, технолагаў, дзізайнераў і ткачоў-практыкаў!". Малайчына, паставіла на месца, а тое ў гэтых капіталістаў толькі абстракцыянізмы ўсялякія модныя, што яны ўвогуле ў мастацтве разумеюць! Амэрыканец ледзь не ўгаварыў старшыню прадаць арыгінальны музэйны экспанат за даляры, але тэлефон нашага шэфа затрызвоніў. Відаць добра яго праз слухаўку абклалі дырэктывамі, бо той пачырванеў, нібы рак у рондалі і да скону дню хадзіў хмурны. Украінец даведаўся, што наглядчыца музэю ягоная зямлячка ды пачаў фліртаваць зь ёю, а наконт паясоў сказаў, нібыта на кірмашы ў Хмяльніцкім такія ўжо ёсьць.

Надвор'е вясновае, грэх на шпацыр не пайсьці! Фатаграфуюць госьці нашыя помнікі: Ленін, Бэтм... , то бок воін-вызваліцель, Сафія Слуцкая, Дом культуры, выканкам.

- А памятник товарищу Сталину у вас есть? - запытвае адзін з расейцаў. Мы сьмела адказваем, бо нам саромецца гісторыі няма чаго:

- Быў, на тэрыторыі аднога прадпрыемства, але прыбралі пакуль... на рэстаўрацыю.

Доўга цягнулася экскурсія, распавялі мы і пра Анастасію Слуцкую, і пра першую на Беларусі школу, і пра Радзівілаў. Але здарыўся канфуз.

- What about "Жывіе Біеларус"? Freedom, "Слутскі збpоіны тчын 1920 год"? - нечакана выдаў амэрыканец. Паўза зацягнулася, але й тут наша ідэалягічная прынцэса не разгубілася:

- Не было такова! Былі всякіе прэдацелі, бандыты, но іх было мало, как ўсегда тут па історыі прайшліся нашы нацыяналісты! Як няма, дык няма. Лепей да духоўнага зьвернемся. Вось наша Сьвята-Міхайлаўская царква, помнік драўлянага дойлідства! А купалы як золатам блішчаць, харасство!

І хто бы вы падумалі пачаў мітусіцца ды хістаць галавою, махаючы сваім кішэнным міні-кампутарам - японскі шпіён! Залез у інтэрнэт у вікіпэдыю, а там напісана: "пабудавана з дрэва ў традыцыях народнага дойлідства з элементамі стыляў барока і позьняга клясыцызму". Ну і што? А ён не супакойваецца, маўляў, характэрныя для барочнага стылю купалы шлёмападобныя, гранёныя, а нашыя цыбуліны, новенькія, толькі нядаўна пастаўленыя, яму, бачыш ты, не пасуюць. Мы пачалі яму дурненькаму тлумачыць, паказваем на пальцах - прыгожа, хораша, па-багатаму! Добра, што расейскія госьці заступіліся:

- Русский стиль! Мы всегда знали, что белорусы, нашы братья меньшие, то есть младшие, с нами! Не то, что некоторые!

- А шо? - пакрыўджана адгукнуўся украінец. Пачалася сварка аб расейскім газе і таму падобнае, ледзь разьнялі.

Праводзілі гасьцей усім горадам. Яны выглядалі шчасьлівымі, рукі іхнія былі занятыя валізамі з каўбасна-малочнай прадукцыяй, на шыях зьзялі нэаслуцкія паясы. Абяцалі вярнуцца, ды заключыць шматмільёныя кантракты. Мы на радасьцях нарабілі сувэніраў: футболкі з надпісам "У Слуцку ўсё па-людзку!", фігуркі Сафіі, парфюмэрную сэрыю "Анастасія", значкі і яшчэ ўсяго. Але колькі ўжо часу прайшло, а тэлефоны маўчаць. Ня можам зразумець, што гэтым буржуям не спадабалася? Толькі бывае славянскія браты замаўляюць яшчэ цукру, каўбасаў ды сыру. Дык калі наша харчовая прамысловасьць больш папулярная, чым гістарычная спадчына, ці варта марнаваць сродкі на разьвіцьцё турызму? Калі ласка, прыяжджайце ў Слуцак - ну хаця каб паесьці!

***Джафар Сідх***



**Сьвята-Міхайлаўская царква: да і пасьля "рэканструкцыі". Ніхто не заўважыў падмены?**

©ТУТЭЙШЫЯ
НЕЗАЛЕЖНАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ

ПОГЛЯДЫ АЎТАРАЎ АРТЫКУЛАЎ МОГУЦЬ НЕ СУПАДАЦЬ З ПАЗЫЦЫЯЙ РЭДАКЦЫІ.

УСЕ АРТЫКУЛЫ ДРУКУЮЦЦА НА МОВЕ АЎТАРАЎ.
УЖЫВАЮЦЦА: БЕЛАРУСКАЯ (ТАРАШКЕВІЦА), БЕЛАРУСКАЯ (НАРКАМАЎКА) ДЫ РАСЕЙСКАЯ МОВЫ.



*Заснавальнік і выдавец:*
*грамадзкая ініцыятыва "Тутэйшыя".*

*Нашы кантакты:*
***e-mail:** slucak1116@gmail.com.;*
***адр.эса для ліставаньня:** 223610 г.Слуцак, а/с 60.*

*Распаўсюджваецца бясплатна.*
*Наклад: 299 асобнікаў.*